ПАГОНЯ

Чацвер
30 сакавіка 2000 г.
№ 10 (457)
Кошт 70 рублёў

# Дзень Волі-2000 у Гародні




**У суботу, падчас святкавання гарадзенцамі Дня Волі, ледзь не дайшло да сутычак міліцыі з дэманстрантамі. Толькі дзякуючы рашучым дзеянням арганізатараў свята ўдалося пазбегнуць крывавай бойкі ў цэнтры Гродна.**

25 сакавіка, у 11.30 ля Палаца тэкстыльшчыкаў пачалі збірацца людзі. Пераважала моладзь. Цёплае надвор'е ды веснавое сонейка спрыялі святочнаму настрою. Былі чутны шчырыя віншаванні са святам, раздаваліся ўлёткі, газеты. Тут жа, на месцы, кожны ўдзельнік Дня Волі мог атрымаць з «zakroma of rodina» 1 у.е. - «отщепенцу» і «отморозку» за ўдзел у акцыі.

У 12 гадзін арганізаванай калонай людзі рушылі ў Новы парк, да месца правядзення мітынгу. Аднак, ужо ў самым пачатку вуліцы Савецкай іх сустрэў першы кардон міліцыі. Начальнік Ленінскага РАУС палкоўнік Станіслаў Васілеўскі спрабуе скіраваць людзей на вузкі драўляны масток, што блізу Палаца піянераў. «Мост проверен, и я, как должностное лицо беру всю ответственность на себя.» Аднак памяць пра падзеі на Нямізе вымушае гарадзенцаў рушыць проста на міліцыю.

Варта было апошняй групе святкуючых уступіць на Савецкую, як міліцэйскі ланцуг адразу шчыльна самкнуўся - у цэнтр больш нікога не пускалі. Нейкі мужчына, які відаць спазніўся на пачатак акцыі і спрабаваў дагнаць шэсце, атрымаў ад міліцыянтаў красамоўны адказ - кулаком у твар.

А каля помніка Сакалоўскаму шэсце ўжо чакаў другі кардон з міліцыянтаў. Людзі на імгненне спыніліся. У гэты момант, з боку кінатэатра «Гродна» выбеглі чалавек 35 амапаўцаў, у шлемах, з дубінкамі, і дадаткова перакрылі рух шэсцю.

Потым, у «Рэзанансе», намеснік начальніка УУС аблвыканкама Вікенцій Шостак скажа поўную хлусню - маўляў, было «некалькі рухомых нарадаў міліцыі па два чалавекі».

Далей, перад універмагам чакалі сваёй чаргі два кардоны спецназа.

Стаў відавочным план Станіслава Васілеўскага па забеспячэнню правапарадку(?) ў горадзе. Мірных дэманстрантаў заманьвалі ў «мяшок», каб учыніць звычайную бойку. Аднак, адзін з арганізатараў акцыі - Сяргей Мальчык - сказаў, што «беларусы не хочуць азмрочваць сваё галоўнае свята бойкамі», і павярнуў калону на вуліцу Дамініканскую.

У гэтай акцыі гарадзенская міліцыя яскрава засведчыла свой непрафесіяналізм. З пешаходнай вуліцы Савецкай, міліцыянты выціснулі шэсце на адну з самых ажыўленых транспартных ліній - вуліцу Вялікую Траецкую. Тым самым утварылі на гэтай вуліцы 15-20-хвілінны аўтамабільны затор.

Да месца мітынгу, у Новы парк, пад лозунгамі «Усіх не пасадзіш», «Беларусь - гэта святое», «Лука - дзякуй, свабодзен», «Прамаскоўская ўлада - голад і вайна», «Беларусь ў Эўропу» дэманстранты дабраліся без прыгодаў. На адным з дамоў па ходу калоны моладзь вывесіла бел-чырвона-белы сцяг. Падчас шэсця і ўжо на самім мітынгу шэрагі дэманстрантаў працягвалі павялічвацца. Паводле неправераных дадзеных, у акцыі бралі ўдзел каля сотні пераапранутых супрацоўнікаў КГБ і трыста міліцыянтаў у цывільным.

Сярод выступоўцаў на мітынгу былі вядомыя ў Гродне людзі. Доктар гістарычных навук Алесь Краўцэвіч, народны настаўнік Беларусі Алесь Белакоз, прафесар медуніверсітэта Алесь Астроўскі, сябра БНФ Алесь Лобан, сябра Свабоднага прафсаюза «Азота» Міхаіл Айрапецян, старшыня БСДП (НГ) Міхал Патрэба, старшыня БСДГ Віктар Сазонаў, рэдактар ПАГОНІ Мікола Маркевіч.

Кожны з выступоўцаў казаў пра небяспеку «так званай інтэграцыі» і падкрэсліваў неабходнасць змагання за вольную і незалежную Беларусь.

Алесь Лобан (сябра БНФ): «Нармальная дзяржава стварае спрыяльныя ўмовы для развіцця прадпрымальнікаў, бо гэтыя людзі з'яўляюцца гарантам спакою і дабрабыту ў краіне... У нашай дзяржаве, дзякуючы намаганням уладаў, незалежны беларускі бізнес гіне. На вольнае месца прыходзіць паўкрымінальны расейскі капітал. Адзін з такіх ценявых расейскіх бізнесменаў ужо адкрыта гаворыць: «Через несколько лет вам, белорусам, останется место только в колхозе - морковку выращивать.»

Віктар Сазонаў (старшыня Гарадзенскай філіі БСДГ): «Чалавек нараджаецца вольным, і павінен вольным пражыць сваё жыццё. Вольны чалавек заўсёды знойдзе, як і дзе зарабіць на кавалак хлеба, вольны народ не бывае бедным, вольная краіна заўсёды квітнее. І таму, менавіта, воля і незалежнасць з'яўляюцца найкаштоўнейшымі здабыткамі любога народа і гарантам дабрабыту і годнага жыцця!»

Быў зачытаны віншавальны ліст «сябрам беларусам» з нагоды Свята ад старшыні польскай «Салідарнасці» Мар'яна Кшаклеўскага. «Беларускі народ быў і будзе эўрапейскім народам. Вы маеце сьвятое права ўдзельнічаць у жыцьці заходняга сьвету, ад каторага рэжым Лукашэнкі імкнецца Вас адгарадзіць. Сёньня вырашаецца будучыня Вашага Народу. Няхай Вам хопіць адвагі і рашучасьці. У Польшчы ў Вас ёсьць верныя сябры, гатовыя падтрымаць Вас у кожнай сытуацыі,» - гаворыцца ў гэтым лісце.

Удзельнікі мітынгу падаравалі Лукашэнку вялікую імправізаваную шайбу - «каб ён гуляў у хакей і да нас не заляцаўся». У адказ на прыход да ўлады ў Расеі «гэбіста» Пуціна, пад воклічы «Жыве Беларусь!» быў спалены расейскі сцяг.

Кульмінацыяй мерапрыемства стала ўзняцце на флагштоках двух сцягоў: бел-чырвона-белага сцяга Беларусі і зорна-блакітнага сцяга Аб'яднанай Еўропы.

**Павал Мажэйка**




**31 сакавіка, 1 красавіка** - воблачна, з праясненнямі, часам ападкі, вецер заходні - 6-10 м/с. Тэмпература паветра 31 сакавіка ўначы +1...+6, удзень +7...+12; 1 красавіка - уначы -1...+4, удзень +5...+10.

## Рэзалюцыя мітынгу салідарнасці і пратэсту «За лепшае жыццё у вольнай Беларусі» г.Гродна, 25 сакавіка 2000 года

**82 гады таму, 25 сакавіка 1918 года, была абвешчана незалежная Беларуская дзяржава. Светлыя ідэалы стваральнікаў БНР і цяпер застаюцца актуальнымі і надзённымі для нашай краіны. Бо сённяшнія ўлады Беларусі імкнуцца зліквідаваць яе самастойнасць, зрабіць заходняй губерняй алігархічнай Расеі, дзе працягваецца крымінальная «прыхватызацыя» народнай маёмасці, вядзецца вайна супраць свайго народа ў Чачні.**

**Мы, жыхары горада Гродна, рашуча пратэстуем супраць палітыкі, накіраванай на знішчэнне незалежнасці Беларусі, якую праводзіць Аляксандр Лукашэнка і ўрад краіны. Чалавек толькі тады можа быць багатым і шчаслівым, калі ён вольны і свабодны, жыве ў сваёй суверэннай краіне, дзе вынікі працы грамадзяніна належаць ягонай сям'і, дзецям і ўнукам.**

**Мы супраць усялякіх спробаў знішчэння Беларусі як самастойнай дзяржавы і суб'екта міжнароднага права праз так званы саюз з Расеяй. Нашы дзеці - не гарматнае мяса для расейскіх генералаў.**

**Заяўляем, што ніколі не пагодзімся са стратай свабоды, незалежнасці Беларусі і не прызнаем законнасці дакументаў, падпісаных грамадзянінам А.Лукашэнкам, тэрмін прэзідэнцкіх паўнамоцтваў якога скончыўся 20 ліпеня 1999 года.**

**Мы патрабуем:**

**1. Справядлівых, адкрытых дэмакратычных выбараў для абрання прафесійнай і кваліфікаванай улады, якая здолее забяспечыць нацыянальнае і эканамічнае адраджэнне краіны, годнае жыццё кожнага яе грамадзяніна.**

**2. Замены кіруючых асобаў мясцовай «вертыкалі», якія самастойна нічога не вырашаюць і не клапоцяцца пра дабрабыт і асноўныя правы грамадзянаў. Мясцовае кіраўніцтва павінна выбірацца народам, быць падсправаздачным толькі яму, служыць Закону, а не прэзідэнту, які патрабуе ад чыноўнікаў толькі асабістай адданасці.**

**3. Скараціць расходы на ўтрыманне дзяржаўнага чыноўніцтва, кантрольных установаў. Іх заробак павінен залежаць ад узроўню сацыяльна-эканамічнага развіцця рэгіёнаў, укладу кожнага спецыяліста ў канкрэтную гаспадарчую дзейнасць прадпрыемстваў.**

**4. Прызнаць права працоўных на адмову ад выканання работы ў выпадку затрымкі заробнай платы з адначасовым захаваннем сярэдняй зарплаты за час вымушанага прастою.**

**5. Спыніць беспадстаўны пераслед прадпрымальнікаў, грамадзянаў, якія займаюцца індывідуальнай працоўнай дзейнасцю. Стварэнне сярэдняга класа - гэта гарантыя дабрабыту і сацыяльнай стабільнасці грамадства, яго эканамічнай магутнасці, змяншэння беспрацоўя.**

**6. Падтрымаць ідэю склікання Усебеларускага З'езду і вылучыць ад горада Гродна дэлегатаў на гэты З'езд.**

# Дзень волі гумовых дубінак

**Небывалай колькасцю арыштаваных сустрэў Менск 82-ю гадавіну абвяшчэньня БНР (Беларускай Народнай Рэспублікі).**

Ужо зь дзесятай гадзіны раніцы сталіца Беларусі патрулявалася 7-ю бронетранспарцёрамі з расчахлёнымі кулямётамі, некалькімі вадамётамі, неверагоднай колькасцю міліцыянтаў і вайскоўцамі з сабакамі. У гэты дзень павінен быў адбыцца мітынг, прысьвечаны 82-й гадавіне абвяшчэньня БНР. Да апошняга моманту арганізатары мітынгу ня ведалі, ці улады дазволяць правядзеньне сьвята.

Апошняя акцыя апазыцыі «Марш свабоды II», якая прайшла 15 сакавіка без адзінага парушэньня заканадаўства з боку арганізатараў і сабрала больш за 20 тысячаў удзельнікаў, была жорстка раскрытыкаваная праз дзяржаўныя мас-медыя. Наступным крокам стала забарона правядзеньня ў Менску любых вулічных акцыяў, арганізаваных апазыцыяй. Аднак пазьней Менгарвыканкам дазволіў правядзеньне сьвяточнага мітынгу на пл. Бангалор. Ня кожны карэнны менчук ведае, дзе знаходзіцца такая плошча.

Мяркуемае мейсца збору ўдзельнікаў мітынгу - плошча Якуба Коласа -была заблакаваная ўжо аб 11 гадзіне войскамі спэцыяльнага прызначэньня ў поўнай экіпіроўцы. Сам кардон лачынаўся каля пл. Перамогі і заканчваўся Акадэміяй спартовага выхаваньня. А 11.30 пачаліся першыя затрыманьні. Арыштоўвалі ўсіх, хто меў альбо мог мець хоць нейкае дачыненьне да запланаванай апазыцыяй акцыі. Падчас арыштаў людзей зьбівалі дубінкамі, гвалтам закідвалі ў спэцыяльна падагнаныя машыны. Затрыманьні праходзілі па ўсёй цэнтральнай частцы Менску. Заблакаваным стаў уваход у сядзібу БНФ «Адраджэньне» па вул. Варвашэні. Спачатку памяшканне атакавала група АМАП, аднак, ня здолеўшы ўзяць «аб'ект» штурмам, пачала арыштоўваць любога, хто праходзіў у гэтым раёне вул. Варвашэні. У гэтым мейсцы быў арыштаваны дэпутат польскага Сейму, фракцыя AWS Марыюш Камінські, здымачная група ТВЦ,10 грамадзянаў Польшчы, больш за 40 грамадзянаў Беларусі. Усе яны знаходзіліся пад арыштам у памяшканьні спартовай залі войскаў МУС (Белполк).

Асабліва жорсткія пагромы адбыліся на самой пл. Я. Коласа. Там было затрымана больш за 200 чалавек, журналісты першага каналу польскага тэлебачаньня, НТВ, ГРТ, РТР, Радыё «Свабода», беларускіх і замежных выданьняў - усяго больш за 30 чалавек. Пры затрыманьнях былі спробы пашкодзіць апаратуру. Напрыклад, у аператара польскага тэлебачаньня выбілі з рук камеэру і спрабавалі яе расьцярушыць нагамі, пры гэтым аператару моцна пашкодзілі руку. Узьніклі праблемы і ў журналістаў ГРТ: зьбіты рэпарцёр і пабітая камэра. Арыштаваных звозілі ў яшчэ вольныя ад затрыманых міліцэйскія пастарункі, спартовыя залі войскаў МУС (Маякоўскага, Акрэсціна).

Нягледзячы на паўсюдныя арышты, дэманстрантам удалося сфармаваць дзьве калёны, колькасцю каля тысячы і паўтары тысячы чалавек, якія пачалі рухацца ў кірунку пл. Бангалор. На працягу руху яны былі двойчы атакаваныя войскамі спэцпрызначэньня. Арыштавана каля 100 чалавек.

Тыя, хто не быў арыштаваны альбо разагнаны, правялі сьвяточны мітынг на пл. Бангалор. Агульная колькасьць удзельнікаў - каля 5 тысячаў. Арышты працягнуліся і пасьля мітынгу. Удзельнікаў афіцыйна дазволенага мерапрыемства зьбівалі палкамі і кідалі ва ўжо свабодныя спэцмашыны. Арыштавана каля 80 чалавек.

Агульна па Менску затрымана больш за 500 чалавек. Значную частку затрыманых адпусцілі; тыя, каму не пашчасьціла (каля 120 чалавек), прасядзелі ўсе выходныя за кратамі.

На 18.00 ў Праваабарончым Цэнтры «Вясна» былі наступныя зьвесткі пра затрыманых грамадзянаў: Мікалай Хаткевіч, Мікола Сьцепаненка, Сямён Дзеніс (71 год, пенсіянер жыхар Маладэчна), Ігар Захарыя, Станіслаў Нагорскі, Сяржук Міхальчук, Андрусь Бандаровіч, Генадзь Гумараў, Андрэй Машко, Аляксандр Рапека, Валерый Рудэнка (мастак, аўтар вядомай карыкатуры на вядучага праграмы «Рэзанас» Аляксандра Зімоўскага), Аляксей Паньчукоўскі, Вячаслаў Мілкоўскі, Зоя Рузанава (зьбітая), Мікола Яўмененка, Кацярына Яўмененка (вучаніца 10 класа, 16 гадоў), Алесь Міхноў, Аляксандр Зосімаў, Вадзім Бярозкін, Анатоль Рабкавец (Жодзіна). Лявон Кавальчук (Жодзіна), Пётр Краўчук, Марына Азаронак, Шатэрнік, Аляксей Голікаў, Карашчанка Стась, Сяргей Дулуб, Гладухаў Міхась (г.Масты), Алесь Бондараў, Алесь Мікуліч, Вадзім Саронін, Іван Курмановіч, Іван Адаменка (г.Гомель), Віктар Дземідовіч, Лявон Садоўскі, Усевалад Сіняк, Анатоль Саванові, Павал Сіняк (моцна зьбіты, забрала хуткая дапамога), Ганна Савасьцьянава, Аляксандр Карасік, Генадзь Жукоўскі, Алейнікава, Новік Мікалай, Генадзь Лойка, Аляксей Чарняеў, Андрэй Шаўчэнка (зьбіты да страты прытомнасьці), Віктар Явіч, Аляксандр Сушкевіч, Антон Арцёменка, Лявон Жэўжык, Аляксей Балашоў, У.М. Вішнеўскі, Людміла Зябко, Анатоль Горбач, Вадзім Болбас, Аляксандр Шуцікаў (Гародня), Асмалоўскі Андрэй, Віталь Падаляк, Ігар Картэль, Канстанцін Кузьняцоў, Ігар Курэц, Сяргей Кухарэнка, Сяргей Луц, Іван Лысенка, Іван Малафееў, Мая Кляшторная, Алесь Мікуліч, Патапёнак, Антон Пігулеўскі, Алег Пронін, Аляксей Рамеха, Ян Розум, Ільля Рэфтаў, Ганна Савасьцьянава, Міхаіл Шарамет, Рыгор Кійко, Аляксей Фралоў, Яўген Кардаш (моцна зьбіты).

Гэтым разам «хапун» ахапіў і журналістаў, якія выконвалі падчас гэтых падзеяў свой прафэсійны абавязак: Ірына Халіп (рэдактар газеты «Имя»), Алег Грузьдзіловіч («Наша Свабода», Валер Каліноўскі, Тацяна Сьнітко («Наша ніва», Марына Бабкіна «Асашэйтэд-прэс», Аляксей Шыдлоўскі «Наша Свабода», Ягор Майорчык (радыё «Свабода», Альгерд Невяроўскі, Вадзім Казначэеў (часопіс «Кур'ер»), Любоў Лунёва (радыё «Свабода», Уладзімір Кармілкін, Ларыса Ключнікава («ИТАР-ТАСС»), Алена Лукашэвіч (РТР), Сяргей Пушкін (РТР), Дзмітры Завадзкі ГРТ), Дзмітры Наважылаў (ГРТ), Канстанцін Маразаў (НТВ), Аляксандр Калпакоў (НТВ), Леанід Канфер (ТВЦ), Тацяна Папова ( газэта «Згода», Аляксандр Тамковіч (намесьнік рэдактара газеты «Свободные новости», Славамір Адамовіч («Наша Ніва»), Валерый Дранчук «Белавежская пушча», Сяржук Міхальчык сябра БАЖ, Юрый Дзядзінкін (фатограф), Паліна Сьцепаненка (бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру «Вясна» - «Права на волю»). Былі затрыманы прадстаўнікі Праваабарончых аргнізацыяў Беларусі: Старшыня Беларускага Хельсінкскага Камітэту Тацяна Процька, старшыня арганізацыі «Прававая дапамога насельніцтву» Алег Воўчак...

Былі затрыманыя лідары партыяў і рухаў: быў зьбіты нагамі па нырках Анатоль Лябедзька (дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня, намесьнік старшыні Аб'яднанай Грамадзянскай партыі; Віктар Івашкевіч (намесьнік старшыні Беларускага Народнага Фронту, галоўны рэдактар газэты «Рабочы»; Юрась Беленькі (выконваючы абавязкі Старшыні Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі БНФ, быў моцна зьбіты пры затрыманьні), Анатоль Крыварот (Кансэрватыўна-Хрысьціянская партыя БНФ), Якаў Гутман (Прэзыдэнт Міжнароднай асацыяцыі беларускіх яўрэяў). Затрыманыя грамадзяне Польшчы: Мая Лантковска, Клаўдыюш Весолэк, Якуб Опара, Маціј Гельберг, Артур Цібецкі.

Сярод затрыманых падчас «паляваньня» міліцыі выпадкова апынуўся і ксёндз Шклоўскай парафіі Юры Барок, які прыехаў у сталіцу па службовых справах. Разам яшчэ з сотняй затрыманых ён знаходзіўся ў спэцпрыёмнікуразьмеркавальніку па вул. Акрэсціна. Яшчэ ў суботу, калі была адпушчаная значная колькасьць затрыманых, ксяндзу была прапанавана свабода. Але каталіцкі сьвятар адмовіўся пакідаць будынак разьмеркавальніка, пакуль не адпусьцяць усіх незаконна затрыманых людзей. Учора ў Савецкім судзе адбыўся суд над сьвятаром. Кс. Барок патрабаваў сабе адвакага і перакладчыка на беларускую мову, таму суд адбыўся 26 сакавіка. Прозьвішча суддзі - Казадоеў. Таксама затрымалі і праваслаўнага сьвятара, суботу ён правёў на вул. Маякоўскага, ў спартовай залі, разам зь іншымі затрыманымі.

Ул. інф.



Лукашэнкаўскія «кавалеры» запрашаюць...




25 сакавіка. Менск. Акупацыя

## «Гэта была непатрэбная дэманстрацыя сілы»

Так заявіла пасольства Злучаных Штатаў Амерыкі ў Менску, каментуючы па просьбе журналістаў захады, прадпрынятыя беларускімі ўладамі 25 сакавіка, каб не дапусціць маршу апазіцыі ў цэнтры Менска. Пасольства зазначае, што сотні людзей, уключаючы апазіцыйных палітыкаў, журналістаў, прадстаўнікоў свабодных прафсаюзаў, праваабарончых арганізацый, былі арыштаваныя за спробу ажыццявіць сваё права на свабоду сходаў, гарантаванае беларускай Канстытуцыяй. Пасольства ЗША рэзка асудзіла неабгрунтавана жорсткае падаўленне мірнай дэманстрацыі ў гонар 82-х угодкаў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. На думку дыпламатаў, рашэнне ўрада Беларусі забараніць марш, а таксама захады дзеля ягонага недапушчэння пры дапамозе неадэкватных сілавых метадаў, дэманструюць непавагу да дэмакратыі і ўяўляюць сабою неапраўданы ўціск свабоды слова і сходаў. Гэта з'яўляецца таксама парушэннем міжнародных нормаў і абавязацельстваў, узятых на сябе Беларуссю. Пасольства ЗША заклікала беларускія ўлады неадкладна вызваліць усіх арыштаваных у сувязі з дэманстрацыяй.

Іван Міхайлаў

## Сівакова - у адстаўку!

**Дзеянні супрацоўнікаў міліцыі ў дачыненні прадстаўнікоў СМІ, якія асвятлялі падзеі ў Менску 25 сакавіка, падчас святкавання Дня Волі, Беларуская асацыяцыя журналістаў ацэньвае як беспрэцэдэнтна хамскія. Асацыяцыя наважана паставіць пытанне аб адстаўцы міністра ўнутраных справаў Юрыя Сівакова.**

Паводле звестак БАЖ, у гэты дзень падчас выканання прафесійных абавязкаў былі на некалькі гадзін затрыманы 28 журналістаў. І гэты спіс, магчыма, яшчэ няпоўны. Па словах Жанны Літвіной, прэзідэнта Беларускай асацыяцыі журналістаў, асацыяцыя наважана правесці службовае расследаванне падзеяў і дамагацца распачынання крымінальнай справы ў дачыненні супрацоўнікаў міліцыі, якія затрымалі журналістаў. Пра тое, што адбылося, будуць максімальна шырока праінфармаваныя арганізацыі, у тым ліку міжнародныя, якія абараняюць правы журналістаў.

«Дзеянні міліцыі парушаюць канстытуцыйнае права грамадзянаў на атрыманне праўдзівай і ўсебаковай інфармацыі, — заявіла Ж.Літвіна. — Зразумела, чаму гэта робіцца. Кіраваць, а дакладней, маніпуляваць неінфармаванымі людзьмі вельмі проста».

Беларуская асацыяцыя журналістаў выступіла з заявай, у якой асуджае беспрэцэдэнтныя па цынізму і масавасці дзеянні міліцыі.

Адным з затрыманых у Дзень Волі быў вядомы журналіст, карэспандэнт «Радыё Свабода» Алег Груздзіловіч. У адказ на пратэсты журналіста закавалі ў кайданкі і ўжо ў міліцэйскім аўтобусе некалькі разоў ударылі ў твар. А.Груздзіловіча ў ліку іншых затрыманых даставілі ў часць унутраных войскаў па вуліцы Маякоўскага, а затым ва ўпраўленне ўнутраных справаў Партызанскага раёна, дзе склалі пратакол аб парушэнні грамадскага парадку — журналіст быццам бы заклікаў да непадпарадкавання уладам. Алег Груздзіловіч адмовіўся падпісаць гэты дакумент.

Генадзь Барбарыч

# Зброя беларускай ўлады - хлусня

**У аўторак Гарадзенскія ўлады хацелі правесці тэрміновыя і негалосныя суды над арганізатарамі Дня Волі. Пры гэтым яны не грэбавалі самай звычайнай хлуснёй.**

Распавядае Адольф Зацэпін, старшыня Свабоднага Прафсаюза Тонкасуконнага камбіната, адзін з арганізатараў акцыі:

- У 10 гадзін раніцы на прахадную камбіната прыехалі чатыры міліцыянты з Ленінскага РАУС. Ахова па тэлефоне выклікала мяне. Міліцыянты паказалі пратакол, дзе мяне абвінавачвалі ў «арганізацыі несанкцыянаванага шэсця». Ад тлумачэнняў я адмовіўся, бо вырашыў параіцца з адвакатам. Міліцыя прапанавала мне праехаць у райаддзел. Аднак завезлі мяне ў суд Ленінскага раёна. Суддзя Дзмітрый Дземчанка запытаўся мае прозвішча. «Гэта што - суд?» - адказаў я. Аднак ён запэўніў, што проста хоча ўдакладніць біяграфічныя дадзеныя. Пасля звычайнай у такіх выпадках размовы Дземчанка спытаў, ці згодны я з пратаколам. «Так гэта ўсё ж такі суд?» «Суд,» - адказаў на маё пытанне суддзя Дземчанка. Пасля гэтага я адмовіўся даваць якія-небудзь паказанні. Спадар Дземчанка вымушаны быў патлумачыць мае правы і прызначыць суд на 29 сакавіка на 15 гадзін.

Падобным чынам спрабавалі судзіць Валянціна Лучко, выкладчыка ГрДзУ. Супрацоўнікі міліцыі таксама завіталі да яго на працу і запрасілі ў Ленінскі суд. Спадар Лучко даваць паказанні адмовіўся.

У сераду ў 8.30 на судовым пасяджэнні Валянцін запатрабаваў выслухаць паказанні сведак са свайго боку і прадаставіць адваката. Суд над Валянцінам Лучко адбудзецца сёння, 30 сакавіка, а 15 гадзіне ў Ленінскім раённым судзе.

У гэты ж дзень, толькі ў 14.30 будуць судзіць і старшыню Гарадзенскай Рады БНФ Сяргея Мальчыка. Яго абвінавачваюць у «арганізацыі несанкцыянаванага шэсця». Становішча спадара Мальчыка самае цяжкае. Ён быў ужо асуджаны за арганізацыю несанкцыянаванага шэсця ў Гродне 21 ліпеня. Таму ўлады будуць спрабаваць прыцягнуць яго да крымінальнай адказнасці.

**Павал Мажэйка**

# Каму «служаць» студэнты, і на каго працуе дэкан?

**Тыранаў ствараюць рабы, а не рабоў - тыраны**

Студэнты другога курса Гарадзенскага гістфаку патрабуюць беларускамоўнага навучаньня. У заяве да свайго дэкана, Івана Крэня, маладыя гісторыкі просяць «ствараць умовы для выкладаньня ўсіх навучальных дысцыплінаў па-беларуску». У выпадку, калі з нейкіх прычынаў гэта немагчыма, студэнты патрабуюць стварэньня на другім курсе беларускамоўнай плыні. Паперу падпісалі 28 чалавек, амаль чвэрць другакурсьнікаў.

## Беларуская мова - палітыка?

Спадар Крэнь ухваліў памкненьне навучацца на роднай мове. Асабліва яго ўзрадавала тое, што «падпісанты - людзі розных нацыянальнасьцяў» (пра гэта ён даведаўся, калі ўважліва прагледзеў асабістыя справы студэнтаў). Абяцаў прыняць захады, паставіць пытаньне перад рэктарам, зьвязацца зь Міністэрствам адукацыі. Але пры гэтым дэкан зазначыў - «наступным разам думайце галавой, якія паперы падпісваць». Маўляў, відавочна, што папера складзена дарослым чалавекам, які выкарыстоўвае неразумных студэнтаў у сваіх мэтах, хоча ўцягнуць іх у палітыку.

Выкладнік гісторыі Беларусі й шчыры прыхільнік камуністычнай ідэі прафэсар Коўкель падтрымаў дэкана. Ініцыятараў заявы ён абазваў «махровымі нацыяналістамі, якія хочуць зрабіць ва ўнівэрсытэце анархію». Сказаў таксама, што ўсе ведаюць, хто за гэтым стаіць(?), і колькі грошай ім заплацілі.

Праз пэўны час пачаўся ціск на асобных студэнтаў праз іхных сваякоў, якія займаюць пасады ў дзяржустановах. Ходзяць чуткі, што некаторыя падпісанты патрапілі ў сьпісы на адлічэньне. Адзін хлопец, Іван Мацюк, забраў свой подпіс. У тлумачальнай паперы ён паведаміў дэкану, што заяву яму падсунулі, пры гэтым тэкст ён нават не прачытаў. Дажыўся чалавек да 19 гадоў, а чытаць тое, што падпісвае - не навучыўся. Цікава, як ён з такой кемлівасьцю ў ВНУ патрапіў?

## «Размова па сутнасьці»

Пасьля кіраўнік факультэту выклікаў да сябе «ініцыятараў» збору подпісаў за беларускамоўнае навучаньне. Іван Крэнь патлумачыў, што ўсе дэканы, выкладнікі й студэнты дзяржаўнай ВНУ абавязаныя праводзіць дзяржаўную палітыку. І даў зразумець, што калі некаму не падабаецца ўлада, то ня месца таму чалавеку ў дзяржаўнай установе.

Затым Іван Крэнь спытаў сваіх студэнтаў, на каго яны працуюць. «Каму вы служыце?» - дапытваўся ён. - Вы служыце ня нашай дзяржаве. Вы прадаліся Польшчы!» - урэшце рэшт прыйшоў да высновы Іван Крэнь. Дагэтуль студэнты задаюцца пытаньнем, дзе ж тыя грошы, за якія яны прадаліся? Адно праўда: служыць лукашэнкаўскай дзяржаве «махровыя нацыяналісты» сапраўды ня хочуць.




## Трасянка - гэта па-беларуску!

Праз пэўны час Іван Крэнь паведаміў курсу пра вынікі сваіх намаганьняў па беларусізацыі навучальнага працэсу: стварэньне беларускамоўнай плыні ў бягучым годзе немагчыма. Бо ўжо разьмеркаваныя гадзіны, складзены навучальныя пляны, вызначаныя заробкі выкладнікам... І параіў студэнтам зьвярнуцца да рэктара - мо ён дазволіць з наступнага году вучыцца на роднай мове.

У выніку адна толькі катэдра гісторыі Беларусі прыняла рашэньне ўсе прадметы чытаць па-беларуску. Праўда, мова некаторых асобных індывідаў там ужо даўно стала прадметам студэнцкіх жартаў. Улюбёны выраз дацэнта Ігара Фёдарава, напрыклад, «...каб вы панялі гэта, для скарасьцельнасьці скажу па-рускі».

Што да студэнтаў, то яны рыхтуюць заяву на імя рэктара. Толькі колькі яшчэ давядзецца напісаць такіх лістоў, каб дамагчыся таго, што належыць беларусам па праву? Але гістфакаўскія бунтары не губляюць надзеі - яны маюць некалькі запасных варыянтаў змаганьня. Жартуюць, напрыклад, што хочуць пасяліцца ў намётах пад вокнамі ўнівэрсытэту. Тым больш, што з кожным днём надвор'е ўсё цяплейшае.

Вясна ідзе на Беларусь?

**Алеся Тарашкевіч**

**«...Дзяржава гарантуе ў адпаведнасці з законам свабоду выбару мовы выхавання й навучання» (з артыкула 50 Канстытуцыі РБ)**

# Злачынства ёсць, а складу злачынства няма

**У мінулым нумары ПАГОНЯ паведамляла пра пабітыя шыбы ў памяшканні Гарадзенскай гарадской Рады БНФ «Адраджэньне». Старшыня Гарадской Рады БНФ Сяргей Мальчык напісаў на імя начальніка Ленінскага РАУС спадара Васілеўскага заяву, у якой патрабаваў правесці расследаванне.**

На гэтым тыдні спадар Мальчык атрымаў адказ: «...По вашему заявлению проведена проверка. В возбуждении уголовного дела отказано за отсутствием состава преступления...», - гаворыцца ў паперы.

Атрымліваецца, злачынства здзейснена, а складу злачынства няма? Тым часам, гэта быў шосты выпадак біцця шкла ва Управе БНФ за апошні час.

Няўжо спадар Васілеўскі здатны змагацца толькі з бел-чырвона-белай апазіцыяй, а бандытаў «в упор не видит»? Атрымліваецца, што такое «хобі» палкоўніка перашкаджае яму выконваць свае службовыя абавязкі

**Ул.інф.**

# Гарадзеншчына святочная



Людзям абрыдла жыць жабракамі

## Воранава

25 сакавіка ў Воранаве на цэнтральным стадыёне мястэчка адбыўся санкцыянаваны ўладамі пікет. Пікет быў арганізаваны мясцовай філіяй БНФ і праводзіўся з 8 да 9-й гадзіны раніцы. Удзел у ім узялі болей як 100 чалавек.

Паводле інфармацыі рэдактара мясцовай газеты «Мястэчка» Віталя Куплевіча, напярэдадні Дня Волі ў Воранаве было распаўсюджана шмат улётак з запрашэннем прыняць удзел у святкаванні. Гэта напалохала мясцовыя ўлады, якія пачалі хаатычна праводзіць лінейкі ў мясцовых школах, дзе заклікалі не хадзіць на свята. Зранку, 25 сакавіка, у райцэнтр была выведзена вялікая колькасць міліцыі. Аднак, нягледзячы на гэта, пікет адбыўся. Жыхарам Воранава раздавалі ўлёткі з інфармацыяй пра Дзень Волі, газеты, у тым ліку і ПАГОНЮ. 25 школьнікаў, якія бралі ўдзел у пікеце, атрымалі ў якасці прэзентаў касеты з беларускімі запісамі.

## Смаргонь

На Дзень Волі больш як 50 жыхароў Смаргоні прайшліся святочным шэсцем ад «Аптычнастанкабудаўнічага» завода па вуліцах Якуба Коласа і Гагарына да помніка загінуўшым падчас другой сусветнай вайны.

За некалькі дзён да акцыі міліцыя папярэдзіла арганізатараў, каб не было плакатаў, транспарантаў і сцягоў. Аднак удзельнікі шэсця неслі плакат з лозунгам «Я люблю Беларусь!» і вялікі бел-чырвона-белы сцяг БНФ.

## Свіслач

У Свіслачы старшыня райвыканкама Кузьма дазволіў свіслачцам правядзенне мітынгу на Дзень Волі. У гэты ж час ён аб'явіў суботнік па збору ламачча ў мясцовым парку. Маўляў, той, хто не прыме ўдзел у суботніку, не атрымае сотак пад бульбу.

Нягледзячы на адкрытыя супрацьдзеянні мясцовай улады, каля 50 жыхароў Свіслачы прыйшлі на мітынг. Мітынг адбыўся ў цэнтры мястэчка, ля помніка Кастусю Каліноўскаму, з 9 да 11 гадзін. Удзельнікі трымалі плакаты з лозунгамі «Жыве незалежная Беларусь!», «Не - дыктатуры!» і пяць нацыянальных штандараў.

Пасля мітынгу ўсе скіраваліся на гарадскія могілкі, дзе ўсклалі кветкі да магілы Віктара Каліноўскага.

## Шчучын

У Шчучыне, з 12 да 14-й гадзіны, 25 сакавіка на плошчы Свабоды адбыўся пікет. Удзел у ім узялі дзевяць шчучынцаў.

Адпаведна інфармацыі старшыні Шчучынскай Рады БНФ, жыхары Шчучына прыхільна рэагавалі на пікет. Было сабрана больш за сотню подпісаў супраць інтэграцыі з Расеяй і за адкрыццё нацыянальнага універсітэта.

## Масты

25 сакавіка ў Мастах у рамках агульнабеларускага святкавання Дня Волі прайшоў мітынг. Адбыўся ён на пляцоўцы ля стадыёна «Нёман». Гэта было першае мерапрыемства дэмакратычных арганізацыяў у гэтым годзе, што дазволілі ўлады. Усе папярэднія спробы правесці мітынгі былі забароненыя і тлумачыліся немэтазгоднасцю. На мітынг 25 сакавіка сышлося каля сотні чалавек, без уліку пераапранутых міліцыянтаў ды траіх п'яных асобаў, прывезеных імі ды расстаўленых у розных месцах натоўпу.

У розныя моманты мітынгу пераапранутыя ахоўнікі парадку штурхалі ў локаць сваіх кліентаў, і тыя пачыналі гаманіць наконт таго, што дасць апазіцыя простаму народу ці выказвацца, як ім хораша жывецца зараз. За ўсім гэтым назіраў супрацоўнік КГБ, які ціхенька стаяў ззаду натоўпу. Нягледзячы на ўсё гэта, мітынг прайшоў, на дзіва, спакойна і амаль што аднадумна. Не толькі выступоўцы - Леў Бартош, Язэп Палубятка, Алег Рудабелец - але і іншыя мітынгоўцы, што ўдзельнічалі ў дыскусіі, гаварылі пра тое, што зараз немагчыма пражыць на адну пенсію ды зарплату, што кіраўнікі мясцовай улады нахабна раскрадаюць раённы бюджэт, будуюць сабе палацы, у той час, як народ з кожным днём становіцца бяднейшым. Напрыканцы аднагалосна была прынята рэзалюцыя.

## Слонім

У Слоніме на Дзень Волі мітынгавалі. На вуліцы Брэсцкай, дзе адбываўся пікет, сабралася больш як 200 чалавек.

Выступоўцы распавядалі пра гістарычны шлях Беларусі, пра нелегітымнасць Лукашэнкі, пра немажлівасць удзелу ў недэмакратычных выбарах. Самым папулярным лозунгам у Слоніме быў: «Беларусам - Беларусь, Лукашэнку - УсяРусь!»

## Ліда

У Лідзе 25 сакавіка адбыўся святочны мітынг, прысвечаны Дню Волі. Яго ладзілі супольнымі намаганнямі БНФ пад кіраўніцтвам Вінцука Вячоркі і БНФ Зянона Пазьняка.

Каля 70 удзельнікаў мітынгу сабраліся раніцай ля Кургана Бессмяротнасці. Але не паспелі яны разгарнуць бел-чырвона-белыя сцягі, як да іх падышлі міліцыянты і папрасілі перайсці на іншае месца, на так званую «культурную пляцоўку», што месціцца побач, але ў глыбокай яміне. Міліцыянты, відавочна, баяліся, каб да мітынгоўцаў ля Кургана не далучыліся тыя жыхары горада, якія якраз вярталіся з гарадскога кірмашу.

**Павал Мажэйка**

# Уладзімір Пуцін - сімбіёз камунізму і «охранки» для новай Расеі

**26 сакавіка расейскі народ «зрабіў свой выбар» - на пасаду прэзідэнта краіны абраны Уладзімір Пуцін. Ен перамог у першым туры, бо набраў на некалькі працэнтаў галасоў больш паловы з тых, хто прыняў удзел у выбарах. Перамога Пуціна сведчыць пра тое, што ў Расеі надыходзіць новы перыяд яе гісторыі.**

І яшчэ раз спраўдзілася ісціна пра тое, што новае - гэта добра забытае старое. Нездарма Пуціна ўжо паспелі ўзнагародзіць мянушкай «жалезны наркам», а некаторыя нават «Паўлік Марозаў». Нездарма ўзгадалі антыўтопію пісьменніка Вайновіча, у якой ён прагназаваў, якім можа быць палітычны рэжым ў Расеі напачатку новага тысячагоддзя: «КПГБ - Коммунистическая партия Государственной безопасности». Расейская Дума ўжо прадэманстравала гэты палітычны гібрыд на практыцы: пуцінскія і камуністычныя дэпутаты падзялілі прадстаўнічую уладу, хаця пуцінцы маглі стварыць кааліцыю з лужкоўцамі ды правымі і тым самым адправіць камуністаў ў палітычны нябыт. Значыць, камуністы ім бліжэй. Гэткім жа чынам КПГБ будзе дзяліць і выканаўчую уладу.

Нягледзячы на знешнюю таямнічасць асобы Пуціна, ягоны курс прадказаць няцяжка, тым больш, што ён, па сутнасці, нічога і не хавае. Імперыю, як неаспрэчную каштоўнасць ГБ, будуць абараняць усімі магчымымі сродкамі, якія маюць расейская ваеншчына і спецслужбы. Эканоміка будзе паранейшаму кіравацца алігархамі, паколькі яны зоймуць абсалютна лаяльныя пазіцыі адносна кіраўніцтва Крамля. Бюракратыя так і застанецца ўсяўладнай і бескантрольнай - як і належыць камуністычнай наменклатуры блока КПГБ. Правы чалавека ні КП, ні ГБ ніколі не шанавалі - і не будуць. У знешняй палітыцы КПГБ стане «аднаўляць былую веліч» і змагацца з усімі тымі, хто ўспрымае расейскі імперыялізм і мілітарызм як пагрозу міру.

Адсюль вынікае, што Расея будзе ўзмацняць ціск таксама і ў межах прасторы, раней кантраляванай эСэСэСэРам. КПГБ спадзяецца, што Беларусь стане першым звяном, за якім пацягнецца ланцужок «добраахвотнага» вяртання пад крыло «старэйшага брата». Не толькі славянскія і праваслаўныя народы прагне вярнуць у сваё падпарадкаванне КПГБ, але не развіталіся яны з думкаю вярнуць назад і Каўказ, і ўсю Сярэднюю Азію, і Прыбалтыку. Таму меркаваць, што новы прэзідэнт Расеі зробіць стаўку не на прадстаўнікоў кампрадорскай беларускай наменклатуры, а на кагосьці падобнага на дэмакрата ці ліберала, - гэта памылка. КПГБ ніколі не будзе заляцацца да дэмакратычных і нацыянальна арыентаваных сілаў у Беларусі - бо адчувае сваім нутром, што каштоўнасці дэмакратыі і КПГБісцкія прыярытэты несумяшчальныя.

Як усім добра вядома, КПГБ - гэта надоўга. Падобна на тое, што Пуцін будзе кіраваць чатыры гады, а потым, змяніўшы Канстытуцыю, - яшчэ сем гадоў. Гэта значна болей, чым збіраецца (і мае мажлівасць) кіраваць Беларуссю Аляксандр Лукашэнка. Таму ягоным планам пакарыць Крэмль надышоў канец. Значыць, давядзецца дамаўляцца з Пуціным з мэтаю доўгатэрміновага супрацоўніцтва. Усе падставы для дамовы ёсць - КПГБ цяпер кіруе ў абедзвюх дзяржавах. Так склалася, што кіравацъ Расеяй КПГБ прызначыла Пуціна. Не лягла карта нашаму «маладому славяніну», але агульная справа і службовыя абавязкі - перш за ўсё...

Так што спадзявацца трэба толькі на сябе: Расея яшчэ ніколі і нікому не дапамагла пабудаваць дэмакратыю, рынак і абараніць правы чалавека. Не будзе гэтага і гэтым разам.

**Сяргей Самасей**

# Хто яна - «канструктыўная апазіцыя»?

**Можа, вы звярнулі ўвагу: на Беларусі, як чорт з табакеркі, нечакана з'явілася так званая «канструктыўная апазіцыя». Ні больш, ні менш. Наконт апазіцыі - зразумела. Паводле Ожэгава, гэта - «общее наименование групп (партыяў - А.С.), выступающих против политики правящего режима». Канструктыўная - гэта, паводле таго ж Ожэгава, у скарачэнні - «плодотворная».**

Таму цікава стала пабачыць плён «плодотворной». Мо яна патрабуе ад рэжыму захавання правоў чалавека ў сваёй краіне? Не! Тады, можа, яна лічыць незаконным прадаўжэнне паўнамоцтваў прэзідэнта ў краіне ім самім жа? Не, не чуў! Патрабуе спыніць раптоўнае планамернае знікненне ў краіне лідараў апазіцыі? Таксама не! Патрабуе аднавіць правы Вярхоўнага Савета ды яго сакратара? Дык не! Патрабуе спыніць замбаванне свайго народа (з дапамогай афіцыйных СМІ, тэлебачання) і выступае ў абарону свабоды слова і друку на Беларусі? Не чутно! Хіба тады стаялі ў пікетах, сядзелі ў турмах, збіваліся ўладамі падчас дэманстрацыяў? Не, не і не!

Гатовы папрасіць прабачэння ў кожнага з іх паасобку, калі гэта не так. Мо толькі перашэпталіся дрыжачымі губамі ў сябе на кухні пра тое-сёе. Ды й што гэтыя шэпты зараз каштуюць?.. Чаму усё ж вы прэцеся ў «калашные ряды со свиным рылом»? Вось мой асабісты погляд на гэты феномен. Усё проста - надышоў спрыяльны момант засвяціцца, «потешить самолюбие», бо бяспечна. І дай Божа мне памыліцца, ці не адзін і той жа «бацька» ў гэтых «дзяцей» ад «апазіцыі» (той жа Замяталін). Калі так - прымаўка (перафразленая мною) сталінскіх часін будзе гучаць так: «Дзеці» адказваюць за злачынствы сваіх «бацькоў».

Таму сцвярджаю: «канструктыўнай апазіцыі» ў тых умовах, што існуюць зараз у нашай краіне, быць не можа. Застаецца адно - існая апазіцыя. Што да «канструктыўнай апазіцыі» сённяшняга дня, дык гэта новы тып марыянеткі. І рухаецца яна адпаведна задуме «лялечніка», паводле заранёў напісанага сцэнару.

Вось вам і «канструктыўная апазіцыя». А калі так, то менавіта «канструктыўная апазіцыя» і ёсць у апазіцыі. Толькі не да кіруючага рэжыму, а да існай апазіцыі. А калі яна ў апазіцыі да існай апазіцыі, значыць, яна сябра кіруючаму рэжыму («сочувствующая»). Як вам, сябры, мая «тэорыя адноснасці»? Абсурд - скажаце вы? Можа, і так. Аднак звярніце ўвагу: не я яго выдумаў. Я толькі яго даказаў. Даказаў той абсурд, які тоіцца ў словазлучэнні «канструктыўная апазіцыя». А тое, што існая апазіцыя мае неканструктыўныя адносіны да «канструктыўнай апазіцыі», - гэта верна. Бо існая апазіцыя вызначаецца процістаяннем да кіруючага рэжыму, а не спачуваннем да яго. Тым больш, вы ўжо ў цёплых адносінах з «половым» гэтага рэжыму «Дмитриевым». Годзе дурыць свой народ, «кухаркины дети»! Праўда, выдаў вас «супербацька». Як у яго там пра апазіцыю: «Мы их не пустили через Беларусь, (апазіцыю - А.С.) на саммит ОБСЕ, так они хотят через Америку». Гэта ён так на Вярхоўны Савет і яго старшыню.

Вось вам і дэмакратыя ды «канструктыўны падыход»! Не пушчаць!!! А вы - перамовы... З кім? Застаецца толькі Пашка ды Сашка- «ардэнаносец». Толькі ў гэтых вам не свеціць, яны ж «дворняги» (не блытаць з лягавымі) ад слова «двор». А патрэбны хаця б дваровы. Таму ваша «канструктыўная апазіцыя» для іх галоўнага - тое ж, што і «праваслаўны атэізм».

**А.С.,**
**канструктыўны канструктывіст**

P.S. Хлопцы з «канструктыўнай апазіцыі», вось вам парада: памятайце першае слова ў вашай назве. Хаця б так - прыбліжаная, прыдворная, кішэнная, паркетная, пяшчотная, улюбёная. Апошняе вельмі рэкамендую. Бо гэта і ёсць, што называецца, маразм, давядзены да поўнага абсурду.



# Хто плаціць, той і музыку замаўляе?

**Прадукцыя беларускага прадпрыемства «ўпрыгожана» расейскім трыкалорам**

На этыкетках салодкіх кукурузных палачак «CHRUSTIK», выраблены на ААТ «Лідахарчканцэнтраты», «красуецца» расейскі бел-сіне-чырвоны сцяг. Там жа ўнізе дробнымі літарамі напісана «сделано в Республике Беларусь». Да гонару Беларусі трэба дадаць, што палачкі вельмі смачныя. Але ў нас іх набыць немагчыма: сыравіна пастаўляецца з Чэхіі, і ўся прадукцыя ідзе на экспарт у Нямеччыну, Расею, Літву. «Беларусы ж будуць есці кукурузныя палачкі тады, калі ў іх з'явіцца свая кукуруза,» - паведаміў ПАГОНІ камерцыйны дырэктар прадпрыемства «Лідахарчканцэнтраты» Мікалай Асакаў. Ён жа заявіў, што замоўцай «natural product CHRUSTIK» з'яўляецца Літва, і яна вырашае, «якія сцягі маляваць на этыкетках». «Калі ваша ПАГОНЯ замовіць выраб якой-небудзь прадукцыі, то мы намалюем хоць старшыню БНФ,» - дадаў М.Асакаў.




**Алеся Сідлярэвіч**

# Незалежны прафсаюз вертыкалі не патрэбны

**Запланаваная на 22 сакавіка акцыя пратэсту работнікаў «Азоту» не адбылася. Гэта была ініцыятыва Незалежнага прафсаюза, які меў намер сабраць не меней як тры тысячы чалавек на мітынг перад адміністратыўным корпусам прадпрыемства для таго, каб такім чынам выказаць свой пратэст супраць нізкай заробнай платы.**

ГВА «Азот» заўсёды лічылася багатым прадпрыемствам. Сярэдні заробак быў вышэйшым, чым на любым іншым прадпрыемстве горада. Акрамя таго, завод меў вялізную колькасць аб'ектаў так званай сацыяльна-культурнай сферы, дзе яго ўласныя работнікі карысталіся выгодамі калі і не бясплатна, то за сімвалічную плату, што можна разглядаць як своеасаблівую і даволі значную надбаўку да асноўнага заробку.

Часы ільготаў адышлі ў нябыт. З большай доляй «сацыялкі» «Азоту» даводзілася развітацца - цяпер гэта абуза нават для прадпрыемства-гіганта. Але галоўнае - катастрафічна зніжаецца заробная плата. Адпаведна дадзеным Незалежнага прафсаюза, зараз у сярэднім па заводу яна складае крыху болей за 55 тысяч рублёў, што ў даляравым эквіваленце - каля $60. А ўсяго тры-чатыры гады таму, г.зн. у 1996-1997 гадах яна адпавядала 230 далярам. Сённяшні заробак, як сцвярджаюць работнікі прадпрыемства, не дазваляе нават аднавіць свае сілы, затрачаныя на вытворчасці. Але ж на «Азоце» шмат у якіх цахах - павышаная ступень небяспекі, што патрабуе павышанай канцэнтрацыі сілаў, «я, напрыклад, - заўважыў адзін майстар цэха, - у мінулым годзе так і не з'ездзіў нікуды адпачыць. Купіў жонцы паліто за 70 даляраў, ды і грошы скончыліся».

Рабочыя лічаць, што іх патрабаванні адносна павелічэння заробку да чатырохкратнага мінімальнага спажывецкага бюджэту (на сёння гэта каля 120 тысяч рублёў) цалкам рэальныя для прадпрыемства.

Для таго, каб на законных падставах правесці акцыю пратэсту, Незалежны прафсаюз падаў заяўку ў гарвыканкам. Адказу чакалі да самага дня правядзення акцыі. Гарвыканкам адмовіў. У лісце за подпісам намесніка старшыні гарвыканкама С.Антончыка ў якасці аргументу - довад наконт таго, што «першасная арганізацыя Незалежнага прафсаюза «Азота» не пастаўлена на ўлік у гарвыканкаме».

Між тым, як патлумачыў старшыня Незалежнага прафсаюза «Азота» Сяргей Грынкевіч, чыноўнікі гарадской вертыкалі усяляк зацягваюць пастаноўку на так званы ўлік. Дакументы былі пададзены яшчэ 18 студзеня. Сапраўды, не мае межаў фантазія чыноўнікаў у выбары сродкаў для таго, каб заблакаваць любое, нават самае мірнае, выказванне незадавальнення рабочага класа.

**Ніна Палуцкая**

# Крывавыя «разборки» ў дзіцячым садку N45

**Дзіцячы садок N45. Пятніца, 24 сакавіка. Абедзены перапынак. Дзеці спакойна харчуюцца. Раптам стрэл... Спужаная выхавальніца і дзеці падбеглі да акна. Ад убачанага маленькай Але стала так кепска, што яе ажно званітавала.**

На мінулым тыдні ў дзіцячым садку N45 мужыкам з ружжамі з Аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі захацелася пагуляць у паляўнічых. Спыніўшы свай выбар на дзіцячай установе, падчас абедзеннага перапынку, якраз перад тым, як дзеткі кладуцца спаць, яны вырашылі паадстрэльваць катоў.

- Калі мы падбеглі да акна, - кажа маленькая Алена С., - яны ўжо забілі аднаго коціка і за лапы пацягнулі кудысьці. А другому куля трапіла ў вока, і ён яшчэ быў жывы.

Цікава, а калі б гэта рабілася не пад вокнамі дзіцячага садка, а пад вокнамі аблвыканкама? І замест прыгожых краявідаў чыноўнікам адкрывалася б крывавая расправа над жывёлінамі пад нагамі Праваднікоў усіх часоў і народаў...

**Юлія Коцкая**

# РЭКЛАМА Тэлефон: (0152) 72-29-96, 72-37-14



ПРЫВАТНЫЯ БЯСПЛАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

## ПРАДАЮ

### АЎТАМАБІЛІ, ЗАПЧАСТКІ, ГАРАЖЫ

Масквіч-412, 1974 г.в., па запчастках. Звяртацца: г.Гродна, вул.Томіна, 10-47б.

Масквіч-2140, 1986 г.в. Кошт - 250 у.а. Тэл. 6-07-17.

Рухавік да аўтамабіля «Шэўрале Дзіізжн», 1943 г.в., у непрацоўным стане. Тэл. 5-55-09.

Капот да аўтамабіля Форд-Сіера; тэлевізар «Электрон». Танна. Тэл. 2-65-60.

Запчасткі да Запарожца (кошт - 30 у.а.); поршні і цыліндры да рухавіка. Тэл. 99-25-39.

Металічны гараж у раёне таксапарка (кошт - 300 у.а.); плафон таксі (кошт - 20 у.а.). Тэл. 2-93-86.

Мапед «Верхавіна-6». Кошт - 50 у.а. Тэл. у Ваўкавыску 2-41-14.

### НЕРУХОМУЮ МАЁМАСЦЬ

Аднапакаёвую кватэру ў Гродне (вул.Гагарына, другі паверх). Варыянт: мяняецца гэтая кватэра і адзін пакой у 2-пакаёўцы ў Менску на аднапакаёўку ў Менску. Тэл. у Гродне 2-37-11, тэл. у Менску 52-34-92.

Трохпакаёвую кватэру ў в/г Слабудка Берасцейскай вобласці Пружанскага раёна; дом у в.Лінава-2. Танна. Тэл. 75-13-97.

Дом у цэнтры г.Лепеля на беразе возера. Ёсць новая лазня, гаспадарчыя пабудовы. Тэл. (02132)4-41-82.

Трохпакаёвы дом у г.Гродна; дом у в.Алекшыцы. Тэл. 47-17-89.

Добраўпарадкаваную дачу з сажалкай, ёсць 11 сотак, агарод, будуецца лазня. Тэл. 6-46-32.

Дачу ў Горніцы са святлом, вадой; лак паркетны; ланжароны ВАЗ-06. Тэл. 6-13-51.

Дачу ў раёне в.Навумавічы. Тэл. 76-19-29.

Дачу з добрым домікам і садам - недалёка ад Фолюша, 2 км ад Баранавічаў. Тэл. 44-09-01.

### УСЁ РАЗАМ

16-бітную прыстаўку «Sega» б/у + шэсць картрыджаў ці мяняю на CD-плэер б/у. Тэл. 31-15-83.

Мяккую мэблю «Аир» у добрым стане. Танна. Тэл. 6-92-98.

Новую дубовую бочку-кубелец для засолкі мяса альбо гароднiны (ёмістасць 60 літраў); новую паршнявую групу да «Масквіча». Танна. Тэл. 31-98-61.

Паштовыя маркі; а таксама маленькія разныя палічкі. Тэл. 5-49-87.

Канапу-ложак і два крэслы-ложкі. Тэл. 76-19-29.

Кухню імпартную, халадзільнік «Ока-6», усё б/у; батарэю новую (10 рэбраў). Тэл. 31-24-73.

Швачную машыну «Подольск», ЗВЧ-печ «Электроника»; баян «Этюд», кухню «Кристина». Тэл. 31-05-69.

Шматаперацыйную швачную машыну «Чайка-142 М» з тумбай, нажны і электрычны прывады; Singer б/у. Звяртацца на адрас: г.Гродна, вул.Урублеўскага, д.48, кв.13 (пасля 19.00).

Узмацняльнік «Вега-122»; імпартную магнітолу з узмацняльнікам. Тэл. 73-00-00 (аб. 95352).

Клавішы «Cassio». Тэл. 75-13-97.

Блок сілкавання рэгулюемы 1-12 В; канвертар FM (радыё РОКС, СТАЛІЦА). E-mail: vyi a mail.ru

Магнітафон-прыстаўку «Вега-122», узмацняльнік «Вега» ў камплекце; аўтамагнітолу «Pioneer». Усё б/у. Танна. Тэл. 73-00-00 (аб. 95352).

Фотасветлафільтры, карнізы, кружэлкі, трансфарматар, люстру, кніжныя шафы, падпісныя выданні. Усё б/у. Тэл. 33-59-87.

Плашчы мужчынскія (памеры 46-54); паліто жаночае, дэмісезоннае (памер 46-48); чахол да гітары; хрэстаматыю і самавучыцель на шасціструннай гітары; энцыклапедыю БССР (3 тамы, 1980 г.). Тэл. 33-79-95.

Руска-беларускі слоўнік у трох тамах (5-е выданне, 1994 год) пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі. Тэл. у Менску (017) 258-43-54.

Кнігу: Кастусь Каліноўскі. Творы, дакументы. - Мн.: Беларускі кнігазбор, 1999 г. Тэл. (017) 258-43-54.

Кнігі па эксплуатаванню і рамонту бытавой радыёэлектраапаратуры; «Фантомас» 1-6 том, С.Жапрызо «Убийственное лето», Р.Хайнлайн «Звёздные рэйнджеры», «Космический патруль», А.Някрасаў «Приключение капитана Врунгеля», «Ужасы»; «Как стать бизнесменом», «Что и как делать, чтобы стать предпринимателем», «Живите без проблем: секрет лёгкой жизни», «Лекарственные средства». Калі вышлеце канверт са зваротным адрасам, то атрымаеце спіс кнігаў і кошты на іх. Лісты буду чакаць на адрас: 231600, Гарадзенская вобласць, г.Масты, вул. Пралетарская, 35/2.

Газавы балон з рэдуктарам, кошт - 5000 рублёў; а таксама падольскую ручную швачную машыну б/у, кошт - 15000 рублёў. Звяртацца на адрас: праспект 40 гадоў Перамогі, д.11, кв.19 (спытаць Міхаіла).

## КУПЛЮ

Паглынальнік тлушчу (таблеткі «поглотитель жира»). Тэл. працоўны 72-37-14 (з 10.00 да 18.00, акрамя серады і выхадных дзён, спытаць Святлану).

Дом ці участак пад будаўніцтва ў Гродне, пажадана раён вул.Гагарына, да 5.0 у.а.; дакументы на іншамарку. Тэл. 5-17-72.

Персанальны камп'ютар з сецявой картай; таблеткі «Хіндзін». Тэл. 73-00-00 (аб. 95352).

Кружэлкі з запісамі класічнай музыкі, опер, апераэтаў. У добрым стане. Танна. Звяртацца на адрас: 231600, Гарадзенская вобл., г.Масты, вул.Пралетарская, 35/2 ці на нумар працоўнага тэлефону 3-20-94 з 9.00 да 18.00 - акрамя нядзелі (запрасіць Сяргея).

VW Golf-2, танна; дакументы на іншамарку. Тэл. у Гродне 5-17-72, тэл. у Лідзе 5-32-66.

Набуду планы-схемы беларускіх месцаў (г.Менск не прапаноўваць). Тэл. 8(01776) 51-3-13.

Аэрограф. Пісаць: 230009, г.Гродна, вул.Друскеніцкая, д.12-2 (Юрыю).

Камп'ютарную прыстаўку на CD дысках «Sony Play Station». Тэл. 76-28-84.

Паперу фармату А2-А4 у пачках і рулонах (танна), канверты. Тэл. 31-30-62.

Каляровы манітор «SVGA», б/у. Танна. Тэл. 73-00-00 (аб.95352).

Падручнікі, слоўнікі, размоўнікі (балгарская, літоўская, польская мовы). Тэл. 2-85-77.

Антыкварыят, старыя манеты, узнагароды, гадзіннікі. Тэл. 72-02-26.

Кнігі па ўтрыманню ў хатніх умовах пеўчых і дэкаратыўных птушак, акварыумных рыбак, а таксама кнігі па рыбнай лоўлі. Тэл. 76-47-19.

Значкі дэпутатаў ВС БССР, СССР, Беларусі, кнігу «Птицы Белоруссии». Тэл. 47-19-64.

Куплю наступныя выданні: 1) «Беларуская энцыклапедыя» т.1; 2) «Ілюстраваная храналогія гісторыі Беларусі» т.1; 3) «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі», т.4; 4) Энцыклапедычны даведнік «Беларусь». На абмен прапаную: 1) Міхась Ткачоў «Замкі і людзі»; 2) Кастусь Тарасаў «Памяць пра легенды»; 3) Генадзь Сагановіч «Невядомая вайна»; 4) кніжкі з серыі «Нашы славутыя землякі». Тэл. 47-24-00.

## ПАСЛУГІ

Абследаванне і лячэнне хранічных захворванняў па методыцы Р.Фоля. Ліц. МЗ РБ N224 да 30.XII.2001 года. Тэл. (8-017) 258-88-14.

Відэаздымка. Якасна выканаем работы па стварэнню відэафільма пра Ваш лёс, юбілей, прэзентацыі. Ліц. N613, выд. МК да 2004 г. Выязджаем на месца здымкі на сваім транспарце. Тэл. у Ваўкавыску 2-34-86.

Доктар С.КАЛЯДА: інтэнсіўная псіхатэрапія АЛКАГАЛІЗМУ, ЗАЛІШНЯЙ ВАГІ. Найноўшыя методыкі. Тэл. 74-35-46 (да 18.00). Ліц. N796 па 2004 г., МЗ РБ.

Рэпетытарства па фізіцы. Дапамагу ў рашэнні задачаў, кантрольных работаў. Тэл. 76-55-14 (запрасіць Юрыя).

Ангельская, балгарская мовы: пераклады, індывідуальнае навучанне. Тэл. 2-85-77.

Еўрарамонт, усе віды работаў, забеспячэнне, досвед працы ў нямецкай фірме. Тэл. 33-11-91.

Набор тэкстаў, табліцаў на камп'ютары. Раздрукоўка на струйным альбо матрычным прынтары. Танна. Не абавязкова на Вашай паперы. Тэл. 93-53-56.

Паслугі ветэрынарнага ўрача. Ліц. 10-264 да 2002 года, выдадзеная Міністэрствам с/г. Тэл. 2-73-48.

## МЯНЯЮ

Аднапакаёвую кватэру на пятым паверху на такую ж на першым паверху. Тэл. 44-97-30.

Трохпакаёвую кватэру (134 кв.м, 5-ы паверх) на такую ж на першым паверху. Магчымы варыянты. Тэл. 2-59-23.

Палову дома у Ваўкавыску на кватэру. Тэл. у Ваўкавыску 5-16-52.

Дзве кватэры на добры вялікі дом. Тэл. 2-59-23, 2-27-78.

Дзвюхпакаёвую кааператыўную прыватызаваную кватэру (агульнай плошчы 41,8 кв.м; жылой - 25,9 кв.м) на дзвюхпакаёвую кватэру ў другім раёне. Звяртацца на адрас: вул.Горкага, д.94, кв.29 (пасля 18.00).

Аднапакаёвую кватэру ў г.Алексін Тульскай вобласці на раўнацэнную ў любым горадзе Беларусі. Тэл. (8-212) 3-12-53.

## ЗДЫМУ

Дзвюх-чатырохпакаёвую кватэру новай планіроўкі. Тэл. 31-30-62.

## РОЗНАЕ

Арггкамітэт Лігі Ліцьвінаў запрашае для сумеснай грамадзкай працы асобаў, зацікаўленых ў станаўленні заходнебеларускага (літцьвінскага) рэгіянальнага этнакультурнага руху. Тэл. (8-017)-214-20-39, пэйджар (8-017)-207-00-00 (аб.6663).

Шукаю працу па падшыўцы і падклейванню падэшваў у абутку. Тэл. 31-77-41 (у любы зручны для вас час).

Збіраю архіў незалежнага беларускага друку. Набуду ўсе незарэгістраваныя выданні (на Вашых умовах). Буду ўдзячны за супрацоўніцтва. Тэл. (8-0172) 213-49-83, 283-26-62.

Шукаю працу на нарэзцы пратэктару шынаў легкавых, грузавых машынаў усіх марак. Тэл. 44-39-15.

Здаю напракат: прыстаўку «Нота», фотаапарат, прас, кнігі. Звяртацца на адрас: 230001, г.Гродна, да запатрабавання, в/б БЕ 008703.

Патрабуецца тынкоўшчык. Тэл. 72-11-09.

Шукаю працу (вышэйшая адукацыя). Валодаю рускай, беларускай, польскай (размоўнай), ангельскай мовамі. Шукаю спонсараў для выдання сваіх празаічных ды вершаваных твораў. Лісты дасылайце на адрас: 230012, г.Гродна, завулак Даватара, д.10, кв.53 (Андрэю Заянчкоўскаму).

Шукаю працу па абіўцы мяккай мэблі. Забяру непатрэбную старую мэблю. Тэл. 44-39-15.

Выстава аўдыё-відэакнігапрадукцыі працуе па новым адрасе: г.Гродна, вул. К.Маркса, 11, 2-і паверх. Чакаем вас кожны панядзелак і сераду з 17 да 20 гадзін.

## ЗНАЁМСТВЫ

Мужчына, 35 гадоў, пазнаёміцца з прывабнай жанчынай да 30 гадоў. Пажадана фота і канверт са зваротным адрасам. Лісты дасылайце на адрас: 230023, г.Гродна, да запатрабавання, в/б БЕ 008703.

Дзяўчына, 27/152, пазнаёміцца з мужчынам для сур'ёзных адносінаў з мэтай стварэння сям'і. Адукацыя вышэйшая, працую. Пісаць: 230023, г.Гродна, а/с 54.

Шукаю прыстойную жанчыну, якая мае жылую плошчу, для стварэння сям'і. Пра сябе: 33/165, жанаты не быў, па нацыянальнасці - беларус, па знаку Задыяка - Скарпіён. Лісты чакаю на адрас: 230025, г.Гродна, Галоўпаштамт, да запатрабавання, п/п IV-ДР N706368.

Мужчына, 35/165, маю вышэйшую адукацыю, а таксама жаданне пазнаёміцца з жанчынай з мэтай стварэння сям'і. Пісаць: 230023, г.Гродна, а/с 23 альбо да запатрабавання, п/п I-ДР N500865.

## Гарадзенскі ўікэнд



**Галерэя «Тызенгаўз» (пл. Тызенгаўза, 4).** Выстава жывапісу Ігара Сільвановіча.

**Галерэя «У Майстра» (вул. Кірава, 14).** З 23 сакавіка па 17 красавіка - выстава Яўгеніі Станінай і Вадзіма Лагуна пад назвай «Герой».

**Музей Гісторыі Гарадніцы (вул. Ажэшкі, 37).** Выстава вышыванак Закрэўскай.

**Выставачная зала Саюза мастакоў.** З 29 сакавіка па 15 красавіка - метадычны цэнтр праводзіць выставу «Народныя мастакі».

**Галерэя «Раскоша» (вул. Ажэшкі, 39а).** Выстава антыкварыяту і твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**Цэнтр народнай творчасці (Савецкая,8).** Выстава традыцыйнага рамяства Гарадзеншчыны. Ткацтва.

**Дом мастацкай і тэхнічнай творчасці моладзі (Замкавая,13).** Выстава мастацкай фатаграфіі.

**Музей Максіма Багдановіча** запрашае з 10.00 да 18.00. З 1 красавіка - выстава, прысвечаная Ф.Багушэвічу. Выхадныя дні: нядзеля, панядзелак.

**Тэатр лялек.** 2 красавіка - «Тры парасяткі»; Пачатак спектакля ў 12.00. Для дарослых: 31 сакавіка - «Тутэйшыя». Пачатак у 19.00.

**Канцэрты:** 31 сакавіка ў 16.00 у Палацы хімікаў - канцэрт ансамбля «Бліскавіца». 1 красавіка ў 16.00 у Гарадскім Доме культуры - «Дзень гумару».

---

ПАГОНЯ купон прыватнай бясплатнай аб'явы

10 Імя і прозвішча

Адрас (тэлефон)

Рубрыка

Тэкст

Аб'явы, дасланыя на купонах, друкуюцца ў першую чаргу; неразборліва напісаныя аб'явы не друкуюцца

Купон з тэкстам адпраўце па пошце на адрас: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11

---

Рэдакцыя газеты ПАГОНЯ абвяшчае КОНКУРС на замяшчэнне пасады кіраўніка аддзела рэкламы і маркетынгу.

Абавязковыя ўмовы: амбітнасць, камунікабельнасць, досвед працы.

Даведкі па тэлефонах 72-29-96, 72-37-14.

---

Газета ПАГОНЯ Запрашае на працу *пенсіянераў, студэнтаў, школьнікаў і часова непрацуючых - для распаўсюджвання нашай газеты!* Тэл. 72-37-14, 72-29-96

# Замест сапраўднага Прэзідэнта народам кіруе двайнік!

**Прычыны ўскладнення палітычнай сітуацыі ў нашай краіне за апошнія гады турбуюць многіх грамадскіх дзеячоў, палітолагаў на баку ўлады і апазіцыі, незалежных назіральнікаў. За гэты час выказаны дзесяткі гіпотэзаў, прыведзены доказы самых разнастайных тэорыяў. На жаль, ніводная з іх не тлумачыць вычарпальна сутнасць і патаемны сэнс палітычнага працэсу ў Беларусі. Надта палітычная лінія Аляксандра Лукашэнкі-прэзідэнта адрозніваецца ад перадвыбарчых абяцанняў Аляксандра Лукашэнкі-дэпутата і кандыдата ў Прэзідэнты краіны.**

Дарэмна б'юцца над разгадкай гэтай таямніцы тузіны фінансуемых дзяржавай і грантадаўцамі даследчых установаў, дарэмна шукаюць адказ у рэчышчы традыцыйнага матэрыялістычнага ці ідэалістычнага дэтэрмінізму. Хоць яны добра разумеюць ролю выпадку і значэнне асабістага фактару ў гістарычным працэсе, традыцыяналісцкі падыход наўрад ці дазволіць даследчыкам знайсці сапраўдную прычыну рэзкай змены палітычнай арыентацыі Аляксандра, сына Рыгора. Увогуле, знайсці рацыяналістычнае тлумачэнне змены поглядаў гэтым палітыкам на абсалютна супрацьлеглыя вельмі цяжка. З-за тае прычыны, што рэдка які ўчынак спадара Лукашэнкі тлумачыцца прынятым у грамадстве здаровым сэнсам, зразумелым іншым людзям, а таксама таму, што амаль кожны ягоны ўчынак супярэчыць папярэдняму.

Так бы грамадскасць і знаходзілася ў невядомасці адносна сапраўдных прычынаў палітычных кульбітаў нашага лідара, калі б у рэдакцыю ПАГОНІ напрыканцы мінулага тыдня не прыйшоў ліст. Напачатку мы проста былі не ў стане ўцяміць, пра што распавядае аўтар ліста - настолькі ягоны змест падаваўся фантастычным. Аднак, радок за радком чытаючы расповед ананімнага аўтара, мы паслядоўна ішлі за логікай і фakталогіяй аповеду, і гэтак жа паслядоўна (і міжвольна) пераконваліся ў тым, што невядомы аўтар, калі не мае цалкавітай рацыі, то ў пэўнай частцы даносіць сапраўдны сэнс падзеяў. Урэшце рэшт, рэдакцыя падзялілася надвое. Палова даверылася аўтару ліста, другая палова ацаніла ліст як правакацыю КГБ. Тым не менш, змест ліста падаецца настолькі важным, што ПАГОНЯ палічыла некарэктным схаваць яго ад шырокай грамадскасці.

...Справа ў тым, што чалавек, які называе сябе Прэзідэнтам, насамрэч не з'яўляецца Прэзідэнтам, але зусім не таму, што скончыўся тэрмін яго паўнамоцтваў (хаця гэта таксама адпавядае рэчаіснасці), а таму, што з пэўнага часу краінай кіруе не абраны ўсенароднa лідар, а ягоны двайнік. Сапраўдны, аўтэнтычны ўсенароднаабраны «бацька нацыі» кіраваў краінай нямногім болей за сто дзён са дня інаўгурацыі. Натуральны Прэзідэнт прагнуў зрабіць жыццё народа заможным і свабодным, запусціць заводы і кампенсаваць скрадзеныя алігархамі і камуністычнай наменклатурай укладанні ў ашчадны банк. Але алігархі, карупцыянеры і наменклатура, якіх спрабаваў адхіліць ад улады наш прэзідэнт і прыцягнуць прайдзісветаў да крымінальнай адказнасці, здзейснілі найвялікшае злачынства супраць тутэйшага народа. Яны пазбавілі волі ўсенароднаабранага, змясцілі яго ў патаемныя засценкі, а на ролю Прэзідэнта падрыхтавалі двайніка. Вось гэты самы двайнік цалкам перакруціў палітыку нашага абранніка, скарыстаўся ягоным аўтарытэтам і даверам народа, каб вывесці мафію з-пад народнага суда.

Змяшчэнне сапраўднага Прэзідэнта адбылося ў лістападзе 1994 года, напярэдадні цырымоніі запуску заводаў і фабрык. Сквапныя алігархі скарысталіся з паслугаў міжнароднай мафіі, якая звіла гняздо пад дахам алімпійскага руху. Міфіёзі захапілі ў палон усенароднаабранага падчас трэніроўкі ў Стайках і завезлі яго ў канспіратыўныя засценкі. Першым падмену заўважыў вядомы дзеяч апазіцыі Зянон П., які распачаў палітычную кампанію параўнання перадвыбарчых абяцанняў і рэальнай палітыкі Прэзідэнта. Супраць Зянона былі кінутыя ўсе сілы міжнароднай мафіі, і толькі дзякуючы дапамозе сусветнага сіянізму Зен здолеў адарвацца ад пераследу мафіі ды ўцячы за межы краіны.

Сапраўдны Прэзідэнт сядзеў пад наглядам у засценках настолькі доўга, што найміты мафіі страцілі пільнасць. Усенароднаабранаму ўдалося перадаць праз ахоўніка, які быў распрапагандаваны Прэзідэнтам і перайшоў на бок народа, звестку на адрас сваіх адданых паплечнікаў: Захарчанкі, Ганчарыка, Шарэнскага, Чыгірынава і Лявонцева. Гэтыя мужныя людзі пачалі цікавіцца сапраўдным абліччам афіцыйнага (фальшывага) прэзідэнта. Міжнародная мафія была вымушана арганізаваць аперацыю па дыскрэдытацыі паплечнікаў усенароднаабранага і выкраданні нескарыўшыхся змагароў. Аднак, у шэрагі мафіёзі трапіла некалькі фінансістаў, якія спакусіліся на замежныя крэдыты і «кэш» («наличку») і выпусцілі з засценкаў за хабар у валюце галоўнага фінансавага генія прэзідэнта - Тамару Вільнікаву.

Мафія пачала выключаць з палітычнага працэсу паплечнікаў прэзідэнта: выкрадаць і пераследаваць у крымінальным парадку. Аднак, схаваць таямніцу не ўдалося. Найперш пра яе стала вядома галоўнаму шэфу расейскай бяспекі Распуціну. Шэф Распуцін вызначыў мафіі ўмовы, ад якіх яна не ў стане была адмовіцца. Мафія пагадзілася на стварэнне саюзнай дзяржавы, а Распуцін абяцаў не выкрываць ашуканства да чарговых (пазачарговых) выбараў.

Нейкім чынам пра падмену даведаліся ЦРУ, Масад і рэпарцёр Старушкевіч, а таксама невядомы аўтар ліста ў ПАГОНЮ...

Магчыма, што дадзеную публікацыю інспіравалі вядомыя сваім каварствам спецслужбы з Захаду ці Усходу. Але перададзеная ў ПАГОНЮ інфармацыя тычыцца ўсіх грамадзянаў нашай краіны. Таму рэдакцыя палічыла немагчымым схаваць яе ад грамадскасці. Нягледзячы на адсутнасць канкрэтных доказаў, версія ананімнага аўтара ўскосна пацвярджаецца ўсёй наяўнасцю фактаў найноўшай гісторыі краіны.

**Сяргей Самасей**



**Па гарызанталі:** 7.Хрысціянскі абрад пакаяння. 8. «Бензінавы запаснік». 10.Тоўсты, шчыльны матэрыял, звалены з шэрсці, воўны. 11.Старажытнае свята ўсходніх славянаў. 12.Сталіца Нігера. 14.Бядуля - Плаўнік, Танк - ..? 16.Беларускі паэт. 17.Упартая рэч. 19.Мера ўздзеяння на каго-небудзь. 20.У старажытнасці: металічная зашпілька на адзенне. 24.Абласны цэнтр на Украіне. 25.Польская валюта. 26.Порт у Паўночна-Афрыканскай Рэспубліцы. 30.Хвароба, ад якой памёр Адам Міцкевіч. 31.І...= 48 пунктам. 32.Папрок. 33.Два славутыя паэты, польскі і беларускі, толькі апошні пад псеўданімам. 34.Усё тое, што можна вымерыць і падлічыць.

**Па вертыкалі:** 1.Невялікія начоўкі для зернеачысткі. 2.Рэестр па сутнасці. 3.Садовая кветка. 4.Безбілетны звер. 5.Дробная вяршыня. 6.Яна цвіце адразу, як растае снег. 9.Від піражнага. 13.Куды вывозілі заможных беларускіх сялянаў у часы калектывізацыі? 15.Род шматгадовых травяністых раслінаў сямейства складанакветных. 17.Лёгкая і мяккая шаўковая тканіна. 18.Крык, шум, лямант. 21.І маляр, і муляр. 22.Ківі, але не плод. 23.Летняе надвор'е. 27.Памочнік станавога прыстава. 28.Дыхальнае горла. 29.Частка бохана. 32.Вяпрук.

### Адказы на крыжаванку, змешчаную ў N9:

**Па гарызанталі:** 7.Цукроўка. 8. «Свінапас». 10.Цяжар. 11.Могілкі. 12.Безліч. 14.Снарад. 16.Кітай. 17.Жбан. 19.Млынар. 20.Цахуры. 24.Каня. 25.Склад. 26.Прывід. 30.Свіран. 31.Галерэя. 32.Нанду. 33.Сенажаць. 34.Палітыка.

**Па вертыкалі:** 1.Дуброўна. 2.Восілка. 3.Якуцiя. 4.Твар. 5.Енісей. 6.Чарнігаў. 9.Джыгіт. 13.Бадан. 15.Раля. 17.Жорны. 18.Чарка. 21.Барвянец. 22.Часіна. 23.Кірэенка. 27.Рэлігія. 28.Каложа. 29.Агузак. 32.Ніць.

# Хочаце верце - хочаце не

**У Вас ёсць шанец праверыць сваю інтуіцыю. Калі верыце, пастаўце побач з выказваннем «плюс», а калі не верыце - «мінус», улічваючы, што хутка першага красавіка.**

1. Медыум XIX стагоддзя Дэніэль Хоум аднойчы ў час левітацыі выляцеў з залы цераз акно.

2. Нарвежскае рыбалоўнае судна неяк у 1986 годзе здабыла за адзін улоў болей за 2400 тон рыбы, гэта нешта каля 200 мільёнаў рыбінаў.

3. Ноздры ў заўрапода размяшчаліся на шыі.

4. Штогод кожны амерыканец з'ядае ў сярэднім 23 кілаграмы марозіва.

5. Нумар «люкс» у знакамітым парыжскім гатэлі «Рытц» за адну толькі ноч каштуе ад 500 да 700 даляраў.

6. Сваю першую кружэлку Ванэсса Мэй Ванакорн Нікалсан запісала ўжо ў 10 гадоў.

7. У 1856 годзе на горад Гаррадсбург (ЗША) абрынуўся дождж з вязальных спіцаў.

8. Жанчынам-фехтавальшчыцам чатыры гады таму дазволілі ўдзельнічаць у Алімпіядах са шпагай.

9. Здольнасці хілера-цудатворцы Жазэ Пэдра дэ Фрэйтаса, які праводзіў аперацыі без абезбольвання і стэрылізацыі, любым вострым прадметам, што трапляў яму пад руку, нечакана выявіліся ў 1918 годзе.

**Правільныя адказы:** 1+, 2-, 3-, 4+, 5-, 6-, 7+, 8+, 9-

**Падвядзем вынікі**

Калі Вашыя адказы цалкам супалі з правільнымі, то інтуіцыя ў Вас - на ўсе 100! Калі «мінусаў» атрымалася 7-8, дык іншым разам, шаноўныя эрудыты, хаця б дзе-нідзе пастаўце «плюсы». А цяпер наконт адказаў з «мінусамі»: 2) каля 120 мільёнаў рыбаў; 3) на макушцы галавы; 5) ад 700 да 900 даляраў; 6) у 11 гадоў; 9) у 1955 годзе. Віншуем Вас са святам гумару! Усмешка на Вашым абліччы толькі ўпрыгожыць Вас!

# Вайсковыя досціпы

- Хто гэта ходзіць з чырвоным носам, як агурок?!
- Левы палец вялікай нагі.
- Ляцяць N самалётаў. Не, N мала. К, і абодва рэактыўныя...
- Міны бываюць танкавыя і супрацьтанкавыя.
- Маўчаць! Або я зараз буду лютаваць!
- Маўчаць! Я ў вас пытаюся!
- Напіваецеся і поўзаеце вакол сябе на карачках.
- Наша краіна знаходзіцца на вельмі глыбокім пад'ёме.
- Не кожны дурань можа вучыцца ў ваеннай акадэміі, а я яе скончыў.
- Не трасіце мордай твару!
- Не хочаце жыць як людзі, будзеце жыць паводле статута.
- Ну і валасы адпусціў! Як у авечкі. Хутка рыкаць пачнеш.
- Апытанне будзе пісьмовае, але вусна.
- Арыенцір: хваіна з бярозавай верхавінай - адзінокае дрэва ў лесе.
- Ад вас такая ж карысць, як ад шклянога малатка!
- Па камандзе «Бягом» рукі згінаюцца ў каленях.

**Падрыхтаваў Аляксей Салей**

# Гараскоп

♈ **Баран (21.03-20.04).** Будзьце крыху хітрэйшым (-ай), каб ніхто не здолеў скруціць Вас у бараны рог.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Годзе бычыцца на халадэчу! Час вясну гукаць!

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Пакуль яшчэ ніхто не заўважыў раздвоенасці Вашай асобы - хавайцеся ў бульбу!

♋ **Рак (22.06-22.07).** Не варта адступаць і складваць «клешні»! Толькі наперад!

♌ **Леў (23.07-23.08).** Лёс яшчэ не патрапаў Вас за загрывак? Дык чаго раўці на ўвесь звярынец?

♍ **Панна (24.08-23.09).** Паводзьце сябе, яе належыць сапраўднай Панне, - сціпла, але з годнасцю. Усе будуць у Вашых ног.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Яшчэ вагаецеся: сеяць альбо жаць? На дачы будзеце разбірацца!

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Памятайце: кусацца - гэта далёка не ўсё, на што Вы здольныя. Пераканайце ў гэтым іншых.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** На гэтым тыдні рыхтуйце свае амурныя стрэлы. Надышоў час закахацца.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Зоркі раяць Вам не сумаваць па былым. Скіньце Вы свае рогі!

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Меней вады - больш справы! Годзе заліваць вочы! Закусвайце!

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Спрабуйце часцей маўчаць, каб падацца разумнейшымі за калег па «акварыуму».

# Вольныя Танцы: Новая альтэрнатыва

**19 красавіка (серада) у канцэртнай зале «Мінск» адбудзецца прэзэнтацыя альбому «Вольныя Танцы: Новая альтэрнатыва» з удзелам беларускіх гуртоў: NRM, Нэйра Дзюбель, Крыві, Палац, Уліс, Тройца, Новае Неба, Лявоны і гасьцёў з Беластоку (Рэспубліка Польшча) гурты R.F.Braha. Пачатак у 19.00.**

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскай абласной узбуйненай друкарні. Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4. Замова 1 131 Наклад 8 370
Нумар падпісаны да друку ў 16.00 29.03.2000 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае прадастаўленым рэдакцыяй дыяпазітывам.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Аксана Бурдзюк, камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей